# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

НАКЛАД 999 АС.



## НЕЗАЛЕЖНАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ҐАЗЭТА

3-га сьнежня ў штаб-кватэры БНФ адбылася установчая канфэрэнцыя Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі (БХДП). Ініцыятарамі яе ўтварэньня выступілі Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць і Саюз беларускай каталіцкай моладзі. На канфэрэнцыі выступілі Алег Бяляцкі, старшыня БХДЗ Мікола Крукоўскі, намесьнік старшыні Сойму БНФ Юрась Хадыка, старшыня жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Людміла Пеціна. На канфэрэнцыі прыняты статут БХДП, старшынём новаўтворанай партыі абраны прафэсар Мікола Крукоўскі. У той жа час частка сябраў БХДЗ правяла установчы з'езд Партыі хрысьціянска-дэмакратычнага выбару. Як бачым, напярэдадні парляманцкіх выбараў назіраецца актывізацыя хрысьціянскадэмакратычнага руху, яго імкненьне выйсьці на палітычную арэну Беларусі. Разам з тым віавочны некаторыя разыходжаньні ў лягеры хрысьціянскіх дэмакратаў, якія, зрэшты, не маюць міжканфэсійнага характару. Наколькі пасьпяхова ўдасца вырашыць задачы, пастаўленыя хрысьціянскімі дэмакратамі, як будуць разьвівацца стасункі паміж новаўтворанымі партыямі - пакажа час.

11 сьнежня

Утворана Аб'яднаньне маладых патрыётаў Беларусі

Установчы сход гэтай арганізацыі адбыўся 27 лістапада ў Маладэчні (пра гэта паведамляла «Беларуская маладзёжная). Арганізацыя аб'ядноўвае ў асноўным вучнёўскую, студэнцкую, рабочую моладзь горада.У адпаведнасьці са Статутам і Дэклярацыяй, Аб'яднаньне Маладых Патрыётаў Беларусі — нацыянальна-патрыятычная ды культурна-асьветніцкая маладзёжная арґанізацыя, мэтай якой ёсьць садзейнічаньне адраджэньню і разьвіцьцю беларускай нацыі.

АБМП выступае:

— супраць любой ідэалёґіі, якая зьневажае чалавечую асобу і ўшчыняе над ёй ґвалт,

— за свабоду сумленьня і свабоду слова,

— за парытэт правоў чалавека, нацыі і дзяржавы,

— за сацыяльна-рынкавую эканоміку, сутнасьць якой — дабрабыт беларускага народу,

— за вяртаньне Беларусі ў Эўрапейскую цывілізацую.

11 сьнежня прадстаўнікі Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў сустрэліся ў Маладэчні з сябрамі Рады Аб'яднаньня. Маладыя патрыёты з Менску і Маладэчні хутка прыйшлі да паразуменьня. Былі разгледжаны перспектывы супрацоўніцтва дзьвюх арганізацый, абмерка аны праблемы сучаснага маладзёжнага руху. Для зацікаўленых паведамляем каардынаты, па якіх можна зьвязацца з Аб'яднаньнем маладых патрыётаў: адрас для карэспандэнцыі

..., кантактны тэлефон ... .

На 26 сьнежня запланавана сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый і студэнцкай грамадзкасьці краіны. Сустрэча праводзіцца па ініцыятыве Прэзідэнта. Яе падрыхтоўкай з боку маладзёжных арганізацый займаецца аргкамітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі шэрагу арганізацый. На сваіх паседжаньнях 7 і 13 сьнежня аргкамітэт распрацаваў пералік пытаньняў, якія плянуе вынесьці на сустрэчу. У асноўным гэтыя пытаньні тычацца дадатковых мераў па сацыяльнай абароне моладзі (увядзеньне ільготных крэдытаў для маладой сям'і і атрыманьня платнай вышэйшай адукацыі, увядзеньне ў дзеяньне Закона аб альтэрнатыўнай службе і інш.), а таксама стварэньня ўмоў для дзейнасьці маладзёжных арганізацый (павялічэньне дзяржаўнага фінансаваньня на падтрымку маладзёжных праграм, устанаўленьне ільготных ставак аплаты арэнды памяшканьняў і ўвядзеньне падаткавых ільгот для маладзёжны арганізацый, выдзяленьне будынка для стварэньня Рэспубліканскага дома маладзёжных і дзіцячых грамадзкіх арганізацый і інш.). Цэнтральным пытаньнем, якое будзе вынесена на сустрэчу, з'яўляецца патрабаваньне аднаўленьня самастойнага дзяржаўнага ворган па справах моладзі - Камітэта па справах моладзі або стварэньне на яго аснове Міністэрства па справах моладзі і жанчын (сям'і). Свае меркаваньні прадстаўнікі маладзёжных арганізацый выклалі ў Звароце, які перададзены ў адміністрацыю Прэзідэнта. Іншага падыходу прытрымліваюцца арганізатары сустрэчы з боку студэнцтва. Замест таго, каб даручыць падрыхтоўку да яе студэнцкім арганізацыям, гэты абавязак узяло на сябе Міністэрства адукацыі і навукі. Інфармацыя аб парадку і крытэрыях вылучэньня студэнтаў на сустрэчу, а таксама аб пытаньнях, што плянуецца на яе вынесьці, пакуль застаецца «засакрэчанай». Як нам удалося даведацца, вылучэньне «прадстаўнікоў студэнцтва» (цікава, каго яны ў такім выпадку будуць прадстаўляць?) даручана непасрэдна рэктарам ВНУ. Таму студэнтам, якія хочуць патрапіць на сустрэчу, раім набрацца мужнасьці і прапанаваць свае кандыдатуры вышэйшаму кіраўніцтву сваёй установы. Свае пытаньні на сустрэчу з Прэзідэнтам падрыхтавала Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў. Яны ў асноўным закранаюць праблемы рэфармаваньня адукацыйнай сістэмы, сацыяльнай абароны студэнтаў, паляпшэньня фінансаваньня адукацыі і навукі, праблему дзяржаў ай моўнай палітыкі ў сфэры адукацыі.

26 сьнежня ў зале паседжаньняў Кабінета Міністраў Прэзідэнт А.Лукашэнка сустрэўся з лідэрамі рэспубліканскіх маладзёжных арганізацый і прадстаўнікамі студэнцкіх калектываў ВНУ. На сустрэчы прысутнічалі таксама сябры ўрада і работнікі цэнтральнага і абласных Камітэтаў па справах моладзі. Як паведамлялася (бюлетэнь і...), на сустрэчы плянавалася разгледзець стан і перспектывы дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, праблемы маладзёжных арганізацый і студэнцкай моладзі. Аднак хутка стала зразумела, што з боку прэзідэнцкай каманды сустрэча плянавалася хутчэй як прапагандысцкая акцыя, не накіраваная на дзейснае вырашэньне маладзёжных праблемаў. Гэта было відаць па колькасьці і складу аўдыторыі, па нескаардынаванасьці і няўзгодненасьці паводзінаў прэзідэнцкай стараны і іншых удзельнікаў сустрэчы, урэшце па тым характэрным «апплуа», якое прыняў Лукашэнка з самага пачатку сустрэчы. У выніку ўсяго гэтага сустрэча мела ў цэлым малапрадукцыйны характар. Сярод асноўных яе вынікаў трэба назваць абяцаньне Лукашэнкі падпісаць пасьля дапрацоўкі Указ «Аб першачарговых мерах у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі», праект якога быў прадстаўлены Камітэтам па справах моладзі і падтрыманы шэрагам маладзёжных арганізацый. (Тэкст гэтага дакумэнта ў канчатковай рэдакцыі, у якой ён быў накіраваны ў адміністрацыю Прэзідэнта ў апошніх чыслах сьнежня, мы прыводзім ніжэй). Ва ўступным слове Лукашэнка выказаўся за стварэньне комплекснай дзяржаўнай Праграмы «Моладзь Беларусі» і пералічыў 15 прыярытэтных накірункаў, якія, на ягоную думку, павінны быць там адлюстраваны. (Як высьветлілася пазьней, гэтыя

**працяг са стар. № 5**

Задачы грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі ў Рэспубліцы Беларусь прадугледжваюць: - выхаванне ў моладзі любові да сваёй зямлі як спрадвечнай і неад'емнай жыццёвай прасторы народа, асновы для яго існавання; - выхаванне ў беларускай моладзі нацыянальнай свядомасці як пачуцця прыналежнасці да нацыі - тэрытарыяльнай, культурнай, гістарычнай супольнасці людзей; абуджэнне ў моладзі цікаўнасці да нацыянальнай гісторыі, культуры, традыцый; - развіццё этна-культурнай свядомасці у моладзі іншых этнічных супольнасцяў, якія існуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з адначасовым выхаваннем у яе агульнаграмадзянскага беларускага дзяржаўнага патрыятызму; - развіццё культуры і духоўнасці моладзі, заснаваных на беларускіх нацыянальных традыцыях; - выхаванне ў моладзі грамадзянскай свядомасці як пачуцця павагі, адказнасці і ўсведамлення абавязкаў перад дзяржавай і грамадствам; развіццё прававой культуры моладзі; - сцвярджэнне ў маладзёжным асяроддзі каштоўнасцяў беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, выхаванне павагі да яе атрыбутаў; - выхаванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі моладзі, падрыхтоўку яе да ўдзелу ў працэсах нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

# РАЗВІЦЦЁ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СВЯДОМАСЦІ І ПАТРЫЯТЫЗМУ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Суб'ектамі грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі прызнаюцца: сям'я, навучальныя і выхаваўчыя установы, спецыялізаваныя дзяржаўныя установы, грамадскія маладзёжныя і дзіцячыя патрыятычныя аб'яднанні.

У якасці арганізацыйных захадаў, накіраваных на рэалізацыю грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі, Праграма прадугледжвае: 1. Правядзенне канцэптуальных і метадычных распрацовак па грамадзянска-патрыятычным выхаванні моладзі. 2. Правядзенне праз навучальна-выхаваўчы працэс у установах Рэспублікі Беларусь, праз сродкі масавай інфармацыі і кнігавыдання шырокай прапагандысцкай кампаніі, накіраванай на выкананне Задач грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі. 3. Падтрымку дзейнасці маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў культурнага, краязнаўчага, экалагічнага, гісторыка патрыятычнага, вайскова-патрыятычнага і інш. профілю, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама арганізацый беларускай моладзі па-за межамі Рэспублікі Беларусь. Дзяржаўнай падтрымкай будуць карыстацца патрыятычныя аб'яднанні моладзі, якія дзейнічаюць у адпаведнасці з Задачамі грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі у Рэспубліцы Беларусь, устаноўленымі гэтай Праграмай.

Механізм падтрымкі дзейнасці маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў прадугледжвае:

- стварэнне нарматыўна-прававой базы для дзейнасці маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў, механізму іх узаемадзеяння з дзяржаўнымі структурамі ў Рэспубліцы Беларусь

; - стварэнне сістэмы каардынацыі, інфармацыйнага і метадычнага забеспячэння маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў ;

[- стварэнне сістэмы падрыхтоўкі кадраў для работы ў маладзёжных патрыятычных аб'яднаннях;]

- дзяржаўнае фінансаванне мерапрыемстваў і праграм маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў, якія непасрэдна накіраваны на выкананне Задач грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі ў Рэспубліцы Беларусь.

ПЛАН МЕРАПРЫЕМСТВАЎ, накіраваных на выкананне раздзела Праграмы «Развіццё грамадзянскай свядомасці і патрыятызму беларускай моладзі»

1. Правядзенне работы па распрацоўцы канцэпцыі, праграм, накірункаў і сродкаў развіцця грамадзянскай свядомасці і патрыятызму беларускай моладзі. Стварэнне з гэтымі мэтамі Экспертнага савета з удзелам навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў і маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў.

2. Правядзенне ў 1995/96 г.г. шэрагу метадычных канферэнцый, нарадаў, прысвечаных праблемам грамадзянскапатрыятычнага выхавання моладзі.

3. Распрацоўка і ўкараненне ў агульнаадукацыйных школах і пазашкольных установах факультатыўных навучальных курсаў [пералік навучальных курсаў: «Краязнаўства», «Гісторыя беларускай культуры», «Этнаграфія» і інш.]
4. Выданне і рассылка падрыхтаваных навукова-тэарэтычных, вучэбна-метадычных матэрыялаў.

5. Стварэнне каардынацыйнага цэнтра для арганізацыі ўзаемадзеяння суб'ектаў патрыятычнага выхавання моладзі ў Рэспубліцы Беларусь; арганізацыя пры цэнтры інфармацыйнааналітычнай службы і базы метадычных матэрыялаў.

6. Арганізацыя сістэмы вучэбна-метадычных курсаў падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі арганізатараў грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі.

7. Арганізацыя ўсебеларускіх конкурсаў на лепшы твор [пералік відаў таораў: літаратурны мастацкі, літаратурны навукова-папулярны, кінафільм і інш.], накіраваны на патрыятычнае выхаванне моладзі па раздзелах: [пералік раздзелаў, напр., гісторыя Беларусі, культура і традыцыі беларусаў і інш.]

8. Правядзенне тэле- і радыёконкурсаў, накіраваных на патрыятычнае выхаванне моладзі, па тэмах: [пералік тэмаў].

9. Арганізацыя летніх лагероў, збораў удзельнікаў дзіцячых і маладзёжных патрыятычных аб'яднанняў.

10. Прыцягненне моладзі да ўдзелу ў акцыях, прымеркаваных да славутых датаў у гісторыі Беларусі [пералік датаў].

11. Штогадовае выдзяленне сродкаў на падтрымку мерапрыемстваў і праграм маладзёжных і дзіцячых патрыятычных аб'яднанняў, накіраваных на рэалізацыю Задач грамадзянскапатрыятычнага выхавання моладзі ў Рэспубліцы Беларусь.

праект

УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ПЕРШАЧАРГОВЫХ МЕРАХ У ГАЛІНЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛІТЫКІ

**працяг са стар.№ 3**

Міністэрстве, прапановы па структуры, штатам і складу калегіі Міністэрства. Абласным, гарадскім і раённым выканкомам Саветаў дэпутатаў, кіраўнікам адміністрацый прыняць меры па арганізацыйнаму і фінансаваму узмацненню органаў па справах моладзі і сям'і у структуры выканаўчай улады.

4. З мэтай падтрымкі сацыяльна значымых ініцыятыў і праграм моладзі Міністэрству фінансаў павялічыць за кошт рэзерву Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 (аднаго) мільярда рублёў колькасць сродкаў, выдзеляемых у Рэспубліканскім бюджэце на рэалізацыю праграм дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Кіраўнікам выканаўчай улады абласных, гарадскіх і раённых саветаў прадугледзець пры фарміраванні адпаведных бюджэтаў выдзяленне штогод сродкаў на фінансаванне часткі затратаў на ажыццяўленне праграм і праектаў рэгіянальных і мясцовых маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў; прадаставіць маладзёжным і дзіцячым арганізацыям права карыстацца памяшканнямі школ, пазашкольных установ, клубаў, палацаў школьнікаў і палацаў культуры, спартыўнымі і іншымі збудаваннямі бясплатна альбо на ільготных умовах, а таксама садзейнічаць выдзяленню памяшканняў для маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў з прадастаўленнем ільгот на арэнду, камунальныя паслугі, як для бюджэтный установ; забараніць выкарыстанне не па назначэнню маладзёжны і дзіцячых цэнтраў, клубаў, аздараўленчых лагераў, турбазаў і іншых установ, якія праводзяць работу з дзецьмі і моладдзю, а таксама ізымання маёмасці дадзеных установ у іншых мэтах.

5. Міністэрству працы ў 2-х месячны тэрмін вызначыць парадак выдзялення грашовых сродкаў з Рэспубліканскага фонда садзеяння занятасці насельніцтва грамадскім і маладзёжным аб'яднанням для арганізацыі другаснай занятасці моладзі і студэнтаў у вольны ад вучобы час.

6. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь у 2-х месячны тэрмін разгледзець пытанне аб прадастаўленні маладым сем'ям доўгатэрміновых крэдытаў для будаўніцтва жылля, набыцця рэчаў першай неабходнасці, унясення платы за адукацыю і перападрыхтоўку у навучальных установах, а таксама ільготных крэдытаў для завяршэння пачатага будаўніцтва маладзёжна-жыллёвых комплексаў, і іншых гаспадарча-вытворчых аб'яднанняў і аб'ектаў культурна-бытавога прызначэння для моладзі.

7. Міністэрству па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю Рэспублікі Беларусь і Мінскаму гарвыканкому ў 2-х месячны тэрмін разгледзець пытанне аб выдзяленні памяшкання для выкарыстання ў якасці Рэспубліканскага Дома маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў.

8. Камітэту па справах моладзі Рэспублікі Беларусь сумесна з Беларускім інстытутам навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу і іншымі зацікаўленымі установамі і ведамствамі у 2-х месячны тэрмін унесці неабходныя дакументы па стварэнню навукова-даследчага і інфармацыйнага цэнтра па праблемах моладзі і сям'і.

9. Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь садзейнічаць выкананню міжурадавых пагадненняў аб маладзёжным супрацоўніцтве і абменах, інтэграцыі Беларусі ў міжнародныя маладзёжныя структуры, яе ўдзелу ў асноўных праграмах у гэтай галіне праз Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, Савет Еўропы і іншыя міжнародныя арганізацыі , спрашчэнню працэдуры візавага забеспячэння міжнародных маладзёжных абменаў, уключаючы выдачу віз на падставе ўзаемнасці.

10. Указ уступае ў сілу з моманту яго падпісання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка

## Маладзёжныя арганізацыі распрацоўваюць дзяржаўную Праграму

5 студзеня па ініцыятыве Нацыянальнай Рады маладзёжных арганізацый адбылася нарада, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі каля 50 маладзёжных грамадзкіх арганізацый. Нарада была прысьвечана разгляду вынікаў сустрэчы А.Лукашэнкі з моладдзю і арганізацыі работы над дзяржаўнай Праграмай «Моладзь Беларусі». Па дамоўленасьці з Камітэтам па справах моладзі, работу над Праграмай вырашана арганізаваць у некалькі этапаў. На першым этапе праект Праграмы напішуць самі маладзёжныя арганізацыі, зыходзячы са свайго бачаньня маладзёжных праблем і падыходаў да іх вырашэньня. У далейшым праектбудзе дапрацаваны у улікам прапаноў Камітэта па справах моладзі, пройдзе экспертызу і ўзгадненьне з зацікаўленымі дзяржаўнымі установамі. Было вызначана 18 раздзелаў, зь якіх будзе складацца Праграма (у асноўным яны адпавядаюць раздзелам праграмы «Моладёжь России»): 1. Стварэньне сістэмы інфармацыйнага забесьпячэньня моладзі 2. Шляхі разьвязаньня жыльлёвае праблемы моладзі 3. Падтрымка маладой сям'і 4. Падтрымка маладзёжнага прадпрымальніцтва 5. Разьвязаньне праблемы занятасьці моладзі 6.

Развіцьцё грамадзянскай сьвядомасьці і патрыятызму моладзі

7. Падтрымка таленавітае моладзі 8. Развіцьцё мастацкай творчасьці моладзі 9. Развіцьцё масавага спорту сярод дзяцей і моладзі 10. Фармаваньне й разьвіцьцё сістэмы сацыяльных службаў для моладзі 11. Разьвіцьцё сістэмы дзіцячага, маладзёжнага й сямейнага адпачынку 12. Міжнароднае маладзёжнае супрацоўніцтва 13. Сістэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спэцыялістаў па рабоце з моладдзю 14. Дзяржаўная падтрымка дзенасьці дзіцячых і маладзёжных аб'яднаньняў 15. Сістэма кантролю за рэалізацыяй Праграмы у дадатак: 16. Экалягічная адукацыя моладзі 17. Фінансава-эканамічнае і прававое забеспячэньне Праграмы 18. Моладзь і інваліды.

Раздзелы аб'яднаны ў 9 блокаў, па кожным зь якіх створана рабочая група. Склад рабочых груп абвешчаны адкрытым для прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый. Першы этап работы вырашана закончыць да 20 студзеня. Каардынатарам работы над Праграмай абраны выканаўчы дырэктар Нацыянальнай Рады Андрэй Алейнікаў. У яго ўсе жадаючыя могуць даведацца час паседжаньняў той ці іншай групы (тэл. пр. 293985 з 9 да 12).

■

**Прапануем увазе чытача тэкст раздзела Праграмы «Моладзь Беларусі» «Разьвіцьцё грамадзянскай сьвядомасьці і патрыятызму беларускай моладзі». Над ім працавала рабочая група ў складзе: А.Глушко (ЗБС), М.Ежова (Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя), І.Каралёў (Беларуская арганізацыя «Сокалы»), А.Шавель (Камітэт маладзёжных арганізацый), К.Хадыка (Аб'яднаньнеБеларускіх Скаўтаў).**

# РАЗВІЦЦЁ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СВЯДОМАСЦІ І ПАТРЫЯТЫЗМУ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Задачай дадзенай праграмы з'яўляецца стварэнне дзяржаўнай сістэмы грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі, якая накіравана на развіццё патрыятызму, нацыянальнай і грамадзянскай свядомасці, прававой культуры беларускай моладзі, актыўнага уключэння яе ў працэсы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

У наш час відавочны крызіс патрыятызму беларускай моладзі. Пацвярджэннем гэтаму могуць служыць некаторыя дадзеныя сацыялагічных даследванняў: - % моладзі Беларусі не лічаць, што дзяржава абараняе іхнія інтарэсы; - % моладзі не бачаць мэтазгоднасці існавання самастойнай беларускай дзяржаўнасці; - % моладзі не жадаюць абараняць Рэспубліку у выпадку вайны; - % моладзі хацелі б пакінуць краіну. Выклікае трывогу нізкі узровень нацыянальнай і грамадзянскай свядомасці моладзі: - % маладых беларусаў не лічаць беларускую мову роднай; - % - аддаюць перавагу іншай культуры перад роднай; - % - не лічаць беларусаў нацыяй.

- % моладзі не удзельнічала ў прэзідэнцкіх выбарах;

Вытокі крызіснага стану патрыятызму палягаюць у тым, што на працягу значнага гістарычнага перыяду Беларусь не мела фактычнай дзяржаўнай незалежнасці і ўвесь гэты час з'яўлялася аб'ектам экспансіўнай палітыкі іншых краін. Працяглае уздзеянне чужых ідэялагічных сістэм не дазволіла на гэты час сфармавацца паўнацэннай нацыянальнай свядомасці беларусаў, прывяло да дыскрэдытацыі беларускай культуры і ідэі беларускай дзяржаўнасці у значнай часткі народа. Не зроблена рашучых захадаў па выпраўленню гэтых негатыўных з'яў і ў наш час. За 4 гады існавання самастойнай Рэспублікі Беларусь не створана дзяржаўная ідэялогія, накіраваная на нацыянальнае адраджэнне і кансалідацыю беларускага народа, яго ўключэнне ў працэсы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Такое становішча патрабуе неадкладнага выпраўлення сіламі дзяржавы і грамадства, у адваротным выпадку яно можа паставіць пад пагрозу само існаванне беларускай дзяржаўнасці.

Другой Важнай прычынай крызіснага стану патрыятызму з'яўляецца невысокі узровень грамадзянскай свядомасці і прававой культуры беларускай моладзі, нізкі узровень яе духоўнасці. Гэта у значнай ступені абумоўлена рэвалюцыйнымі пераменамі ў беларускім грамадстве, што адбыліся за апошняе дзесяцігоддзе. Змена грамадскага укладу і звязанай з ім сістэмы духоўных і сацыяльных каштоўнасцяў, жыццёвых арыентыраў асабліва востра адбілася на светапоглядзе маладога пакалення.

Відавочна, што толькі неадкладнае вырашэнне пастаўленых вышэй праблемаў можа стварыць перадумовы для стабільнага існавання і развіцця беларускай дзяржаўнасці і беларускага грамадства. Відавочна таксама, што сістэма патрыятычнага выхавання, якая існавала ў былым СССР, па сваёй ідэялогіі, формах і метадах работы не адпавядае сучасным патрэбам выхавання беларускай моладзі. Таму важнай дзяржаўнай справай трэба лічыць стварэнне сістэмы грамадзянска-патрыятычнага выхавання моладзі ў Рэспубліцы Беларусь.

**працяг на стар. № 6**

накірункі слова ў слова супадаюць з адпаведнымі раздзеламі Праграмы РФ «Моладёжь России»). Было вырашана стварыць камісію з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных структур і маладзёжных арганізацый (па 50 %) для распрацоўкі праекта Праграмы. Прадстаўнікі студэнцкіх калектываў (пераважна прафсаюзны актыў ВНУ) у сваіх выступленьнях закраналі ў асноўным сацыяльныя праблемы студэнтаў: цяжкое матэрыяльнае становішча, праблемы працаўладкаваньня, вайсковая служба студэнтаў і

# Сустрэча А.Лукашэнкі з моладдзю

інш. Паколькі студэніты выступілі на сустрэчы разрозьнена і не прадставілі праектаў выніковых дакумэнтаў, то па ўсім блоку студэнцкіх праблем ніякіх канкрэтных рашэньняў прынята не было. У адказе на адно з выступленьняў Лукашэнка заявіў, што з наступнага года частка бюджэтных выдзяленьняў на падтрымку малазабясьпечаных пластоў насельніцтва будзе накіроўвацца ў ВНУ і разьмяркоўвацца праз касы матэрыяльнай дапамогі студэнтаў. Было заяўлена таксама, што ў ходзе скарачэньня беларускіх Узброеных Сіл плянуецца адмовіцца ад некаторых катэгорый прызыўнікоў, у ліку якіх Прэзідэнт бачыць і выпускнікоў ВНУ. З выступленьня студэнта БДПА Дарашэвіча мы даведаліся пра існаваньне ў Менску міжвузаўскай студэнцкай ініцыятыўнай групы, якая мае ў плянах шэраг праектаў па сацыяльнай абароне студэнтаў, у тым ліку разьвіцьцю студэнцкага прадпрымальніцтва. Паказальным было выступленьне 1-га сакратара ЦК Саюза Моладзі Беларусі С.Дароніна. Падкрэсьліўшы пераемнасьць сваёй арганізацыі з камсамолам, ён заявіў, што як бы там ні было, а СМБ быў і застаецца найбуйнейшай маладзёжнай арганізацыяй, якая па колькасьці сябраў і маштабах дзейнасьці намнога пераўзыходзіць усе астатнія арганізацыі, разам узятыя (! - Рэд.), і на заканчэньне выказаў ад імя СБМ гатоўнасьць «падставіць плячо» Прэзідэнту ва ўсіх ягоных пачынаньнях. Ня менш паказальнай была і рэакцыя Лукашэнкі. Выслухаўшы з відавочнай сімпатыяй выступ маладога калегі, ён прызнаўся, што даўно марыў вярнуцца «к хорошим добрым традициям» існаваньня «крупных» маладзёжных і дзіцячых арганізацый, і прапанаваў прысутным разгледзець такую магчымасьць (чытай: далучыцца да СМБ - Рэд.). Адчуўшы хвалю непаразуменьня ў зале, Лукашэнка пасьпешна заявіў, што гэта ўсяго толькі прапанова і што, канешне, «вам самим решать...». На сустрэчы некалькі разоў усплывала і «беларускае» пытаньне. У выступленьні студэнткі БДУ Важнік прагучала сьцьвярджэньне пра неабходнасьць беларусізацыі вышэйшай школы і больш дзейснага забесьпячэньня ВНУ беларускамоўнымі падручнікамі, слоўнікамі і іншай дапаможнай літаратурай. Прадстаўнік ЗБС А.Глушко паставіў пытаньне: ці будзе Прэзідэнт праводзіць палітыку, накіраваную на духоўнае адраджэньне нацыі як неабходную умову для азрадаўленьня грамадзтва і пераадоленьню крызіснага становішча краіны. Адказ Лукашэнкі, шматслоўны і, як заўсёды, насычаны папулісцкімі выпадамі, яскрава паказаў, што Прэзідэнт не разумее ўсяе глыбіні пастаўленай праблемы. Закончылася сустрэча словамі Лукашэнкі «Запомните: я вам ничего не обещал !...»

праект

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ПЕРШАЧАРГОВЫХ МЕРАХ У ГАЛІНЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛІТЫКІ

У мэтах стварэння сацыяльна-эканамічных, прававых і арганізацыйных умоў і гарантый для станаўлення маладых грамадзян, максімальнага раскрыцця патэнцыялу моладзі ў інтарэсах развіцця грамадства п а с т а н а ў л я ю:

1. Лічыць ажыццяўленне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Беларусі адным з прыярытэтных накірункаў сацыяльна-эканамічнай палітыкі дзяржавы, маючы на ўвазе:

- стварэнне ўмоў, якія накіраваны на фізічнае і духоўнае развіццё моладзі, выхаванне грамадзянскай свядомасці і патрыятызму; - забеспячэнне правоў маладых грамадзян, устанаўленне для іх гарантый і сацыяльных паслуг у сферы працы і занятасці, адукацыі, садзейнічанне іх прадпрымальніцкай дзейнасці; - ажыццяўленне падтрымкі маладой сям'і, таленавітай моладзі, маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў; - садзейнічанне міжнароднаму супрацоўніцтву моладзі.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Камітэта па справах моладзі і маладзёжных і дзіцячых грамадскіх арганізацый зацвердзіць склад камісіі па распрацоўцы дзяржаўнай праграмы «Моладзь Беларусі».

3. У мэтах фарміравання і правядзення адзінай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, а таксама для каардынацыі дзейнасці органаў кіравання па справах моладзі ў Рэспубліцы Беларусь адмяніць пункт Указу Прэзідэнта ад 23.09.94 і 122 у частцы аб рэарганізацыі Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь шляхям яго далучэння да Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і стварыць на базе Камітэта Міністэрства па справах моладзі і сям'і. Камітэту па справах моладзі ў 2-х месячны тэрмін унесці ў Кабінет Міністраў палажэнне аб

16 студзеня адбыўся чарговы сход прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый. Былі разгледжаныя вынікі работы над раздзеламі Праграмы «Моладзь Беларусі». Удзельнікі сходу выказалі занепакоенасьць становішчам, якое склалася вакол праекта прэзідэнцкага Указа «Аб першачарговых мерах у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі». Свае настроі прадстаўнікі маладзёжных арганізацый выказалі ў звароце да Прэзідэнта (тэкст якога прыводзім ніжэй). Было вырашана не выпускаць з-пад увагі далейшы лёс Указа і рашуча дабівацца яго падпісаньня і хутчэйшага ўвядзеньня ў дзеяньне. На сходзе выбраны прадстаўнікі ад маладзёжных арганізацый у зьмешаную камісію па дапрацоўцы праекта Праграмы: Ю.Лук'янаў -Асацыяцыя маладзёжных жыльлёвых комплексаў, Л.Загнетава -Маладзёжная арганізацыя ААН, М.Мятлікаў - Ліга добраахвотнай працы моладзі, М.Хандогін - Студэнцкая асацыяцыя фізкультуры і спорту, М.Масюкоў - Маладзёжны міжнародны цэнтар культуры, мастацтва і творчасьці, М.Бабіцкая - Саюз Моладзі Беларусі, А.Шавель - Камітэт Маладзёжных Арганізацый, М.Ежова - Рэспубліканская піянерская арганізацыя. З боку дзяржаўных установ у гэтую камісію ўвойдуць: А.Каралёў - Камітэт па справах моладзі, Ул. Шылаў - Міністэрства аховы здароўя, Т.Стружэўскі - Міністэрства культуры і друку, Я.Міхнюк - Міністэрства адукацыі і навукі, Л.Марчанка -Міністэрства сацыяльнай абароны, Г.Шыдаловіч - міністэрства фінансаў, А.Зеньковіч - Міністэрства працы.

**ЗВАРОТ**
**маладзёжных арганізацый да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Шаноўны спадар Прэзідэнт !

На сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскіх маладзёжных арганізацый 26 снежня 1994 года Вы падтрымалі распрацоўку праекта Указа «Аб першачарговых мерах у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі», ключавымі момантамі якога з'яўляюцца: захаванне самастойнага статуса Камітэта па справах моладзі і ўтварэнне на яго базе Міністэрства па справах моладзі і сям'і і стварэнне грамадска - дзяржаўнай камісіі ( 50\50 ) для распрацоўкі праекта Праграмы «Моладзь Беларусі» . Па Вашаму даручэнню мы, прадстаўнікі грамадскіх маладзёжных арганізацый, актыўна ўключыліся ў распрацоўку праекта Указа. Пасля абмеркавання і ўзгаднення з шэрагам маладзёжных грамадскіх арганізацый мы звярнуліся да супрацоўнікаў Камітэта па справах моладзі за дапамогай у распрацоўцы праекта Указа і накіраванні яго для наступнага ўзгаднення і падпісання. Але згодна з Указам N 122 ад 23.09.1994 года Камітэт па справах моладзі страціў сваю самастойнасць. У сувязі з гэтым мы заяўляем, што праект Указа з'яўляецца ініцыятывай грамадскіх арганізацый і адлюстроўвае інтарэсы моладзі, дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Таму на сённяшні дзень нас хвалюе лёс Указа, які можа згубіцца ў кабінетах міністэрстваў і ведамстваў. Мы, прадстаўнікі грамадскіх маладзёжных арганізацый, звяртаемся да Вас, як да першай асобы дзяржавы, і просім Вашага асабістага ўдзелу ў неадкладным падпісанні Указа «Аб першачарговых мерах у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі». Спадзяемся на Вашу падтрымку і паразуменне.

## СТВАРАЕЦЦА МАЛАДЗЁЖНАЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА

16 студзеня ў штаб-кватэры ЗБС сустрэліся прадстаўнікі З'адзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, Аб'яднаньня Беларускіх Скаўтаў, маладзёжнай філіі БНФ, «Маладой Грамады» і маладзёжнай арганізацыі «Нацыянальнае дзеяньне» (філія Беларускай нацыянальнай партыі). Удзельнікі сустрэчы заслухалі інфармацыю аб ходзе распрацоўкі дзяржаўнай Праграмы «Моладзь Беларусі» і дамовіліся адносна больш актыўнага далучэньня названых арганізацый да гэтай работы. На сустрэчы было таксама прынята рашэньне аб стварэньні сумеснай інфармацыйна-аналітычнай службы з задачамі арганізацыі абмену інфармацыяй, стварэньня інфармацыйнага банка, выданьня бюлетэня, правядзеньня дасьледваньняў па стане і перспектывах беларускага маладзёжнага руху. Служба будзе адкрыта для ўсіх маладзёжных арганізацый патрыятычнай арыентацыі. Рэдакцыйнай групе у складзе А.Глушко (ЗБС) і К.Хадыкі (АБС) даручана распрацаваць праект Палажэньня аб службе. Да канца студзеня да ініцыятывы стварэньня інфармацыйнай службы далучыліся Саюз Беларускай Каталіцкай Моладзі і Аб'яднаньне Маладых Патрыётаў Беларусі.

# ЦІ БУДЗЕ МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ У КРАСАВІКУ ?

З ініцыятывай правядзеньня І Нацыянальнага форума моладзі выступіў Камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь. 24 студзеня гэтая ініцыятыва разглядалася на нарадзе з удзелам прадстаўнікоў некаторых маладзёжных арганізацый. На нараду былі прадстаўлены праекты Звароту аргкамітэта Форума, і праграмы Форума. Асноўнай мэтай гэтага мерапрыемства заяўлена «аб'яднаньне намаганьняў дзяржавы і грамадзкасьці ў вырашэньні маладзёжных праблем, пошуку новых падыходаў і мэханізмаў рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, стварэньні неабходных умоў з боку дзяржавы для працы з моладдзю, дзейнасьці маладзёжных арганізацый у выкананьні праграмы «Моладзь Беларусі»». Удзельнікі нарады не прыйшлі да агульнай думкі адносна мэтазгоднасьці арганізацыі Форума і тэрмінаў яго правядзеньня. Прадстаўнік Міністэрства адукацыі і навукі Г.Бутрым настойваў на правядзеньні Форума ўвосень, яго падтрымалі прадстаўнікі некаторых маладзёжных арганізацый. Не было прынята рашэньня аб правядзеньні маладзёжнага Форума і на нарадзе, праведзенай 31 студзеня. Гэтае пытаньне вырашана вынесьці на агульны сход маладзёжных арганізацый, які плянуецца склікаць да 10 лютага.

Эдгар По

## СЭРЦА ВЫКРЫВАЕ

### працяг з нумару за кастрычнік

Доўга й цярпліва счакаўшы, я так і не пачуў, ці лёг ён зноўку; тады я наважыўся прачыніць ліхтар - зрабіць ценькую-найценькую шчылінку. І я прачыняў яго - гэтак таемна-найтаемна, што вы не дасьцё веры, - і нарэшцэ шпурнуўся са шчылінкі нязыркі, бы павучыная ніць, праменьчык і апынуўся на драпежным воку.

Яно было расплюшчана, шырока-найшырока расплюшчана, і я шалеў, пазіраючы на яго. Я надзвычай добра бачыў яго - невыразна блакітнае, зацягнутае агіднаю плеўкаю, якая ледзяніла мяне да глыбіні душы; але празь цемру я ня мог бачыць ні твару, ні цела старога, бо нясьведама скіраваў прамень рыхтык на клятае месца.

Дык хіба не казаў вам, што прымане за вар'яцтва ёсьць проста празьмернай пранікліваcьцяй? Вось жа, пачуў увушшу ціхі, прыглушаны, прудкі зык, гэткі, што робіць гадзіньнік, завінуты ў вату. Безумоўна, я ведаў гэты гук - білася сэрца старога. Тахканьне распальвала ўва мне лютасьць гэтак жа, як пошчак бубнаў узбуджае жаўнераву харобрасьць.

Але я ўсё шчэ стрымліваў сябе й не варушыўся. Я ледзьве дыхаў, трымаючы застыглы ў руцэ ліхтар; намагаўся ня зводзіць прамень з вока. Тым часам агіднае тахканьне сэрца пачасьцілася. Яно ўсё нарастала а нарастала, рабілася штосэкунды прудчэйшае й гучнейшае.Страх старога, пэўне, стаўся надзвычайны. Біцьцё гучнела, паслухайце, гучнела з кожным імгненьнем! Ці зважаеце на гэта? Я казаў, што я - нэрвовы, сапраўды гэткі. І тады, глыбокай ночай, спасярод вусьцішнае цішыні старога дома, гэткі дзіўны шум пазбавіў мяне змогі кантралявань страх. Адылі колькі хвілінаў я ўтаймоўваў сябе. Але біцьцё гучнела а гучнела! Мне здавалася, што сэрца можа разарвацца. А цяпер новая трывога ахапіла мяне - гук маглі пачуць суседзі! Прабіў час старога! З пранізьлівым крыкам я расчыніў ліхтар і ўскочыў у пакой. Ён выгукнуў адзін раз, толькі адзін раз. Вокамгненна я сьцягнуў яго на падлогу й прыдушыў цяжкім ложкам. Пасьля я весела сьмяяўся, што ўсё ўрэшце зроблена. Але нейкі час сэрца шчэ прыглушана тахкала. Гэта, тым ня менш, не турбавала мяне; біцьця не пачулі б празь сьцяну. Нарэшце яно сьціхла. Стары быў мёртвы. Я адсунуў ложак і агледзеў труп. У ім зусім не было жыцьця. Я прыклаў руку да ягонага сэрца й трымаў яе там колькі хвілінаў. Кроў не пульсавала. Ён быў назаўжды пазбаўлены жыцьця. І я больш не мітрэнжыўся празь ягонае вока. Калі вы ўсё шчэ лічыце мяне вар'ятам, дык пераканаецеся ў сваёй абмылцы, даведаўшыся пра мудрыя перасьцярогі, выкарыстаныя, каб схаваць цела. Ноч сыходзіла, і я хапатліва, але бяз шуму, працаваў. Перадусім я расчальцаваў труп: адрэзаў галаў, рукі і ногі.

Пасьля я выняў з пакаёвае падлогі тры масьнічыны й паклаў усе парэшткі між брусоў. А тады ўставіў зноўку дошкі гэтак разумна й вынаходліва, што ніякае чалавечае вока, нават ягонае вока, ня выявіла б чагось падазронага. Ня трэ' было штосьці вымываць - нідзе ніводнае плямкі, ніводнае кропелькі крыві. Я быў дужа акуратны. Усё засталося ў балеі -га-га!

Калі я скончыў гэтую работу, была чацьвертая - цямнота стаяла, як апоўначы. Адразу па тым, як звон прабіў чацьвертую, пачуўся стук у парадныя дзьверы. Я спусьціўся адчыніць іх са спакоем у душы - чаго мне цяпер было баяцца? Увайшлі трое мужчынаў і зь бездакорнай ветлівасьцяй адрэкамандаваліся афіцэрамі паліцыі. Крык уначы пачуў сусед; вынікла запасочаньне, што адбылося злачынства; інфармацыя была перададзеная ў пастарунак, і яны (афіцэры) пасланыя абшукаць дом.

Я ўсьміхнуўся - чаго мне было баяцца? Я павітаў іх. Сказаў, што сам выгукнуў у сьне. Стары, прыпомніў я, зьехаў на вёску. Я паказаў ім увесь дом. Я прасіў іх агледзець, агледзець добра. Я прывёў іх надосталь у ягоны пакой. Я паказаў ім ягоныя ашчадкі, у захаванасьці, нечапаныя. У захапленьні ад сваёй упэўненасьці я прынёс у пакой крэслы й папрасіў іх тут адпачыць, а сам з шалёнай сьмеласьцяй ад дасканалага трыюмфу паставіў сваё крэсла якраз на тое месца, дзе спачываў труп ахвяры.

Афіцэры былі задаволеныя. Мае дзеяньні пераканалі іх. Я быў надзвычай разьняволены. Яны сядзелі й гаманілі пра нешта звычайнае, і я таксама штосьці бадзёра казаў ім. Але неўзабаве я адчуў, што бляднею й захацеў, каб яны як мага хутчэй пайшлі. Мне балела галаў і, здаецца, стаяў звон увушшу; але яны ўсё сядзелі й балбаталі міжсобку. Звон зрабіўся выразьнейшы, ён не зьнікаў і стаўся шчэ большы. Я загаманіў вальней, каб пазбыцца хваляваньня, але ён не сьціхаў і дасягаў разьвітасьці - і нарэшце я выявіў, што што шум быў не ў маіх вушох.

Няма сумлеву, цяпер я надта спалатнеў, але безупынку гаварыў падвышаным голасам. Адылі гук павялічваўся - што я мог зрабіць? Гэта быў ціхі, прыглушаны, прудкі зык, вельмі падобны да зыку, што робіць гадзіньнік, загорнуты ў вату. Я цяжка дыхаў, але афіцэры шчэ ня чулі яго. Я гаварыў больш хутка й шалёна, але шум няўхільна нарастаў. Я падняўся і ўсчаў спрэчку пра розную драбязу, голасна плявузгаў і разьюшана жэстыкуляваў, але шум няўхільна нарастаў. Чаму б ім не сысьці? Я хадзіў, тупаючы, узад і ўперад, нібы раззлаваны іхнымі заўвагамі, але шум няўхільна нарастаў. О Божа! Што я мог зрабіць? Я шалеў - я халераваў - я лаяўся! Я круціў крэсла, на якім дагэнуль сядзеў, і соўгаў яго па дошках, але гук усё большаў а большаў. Ён гучнеў, гучнеў, гучнеў! А паліцыянты па-ранейшаму з прыемнасьцяй балбаталі і ўсьміхаліся. Ці маглі яны ня чуць? Усемагутны Божа, не, не! Яны чулі, яны падазравалі, яны ведалі, яны сьмяяліся з майго страху, - гэтак я думаў і гэтак я думаю. Не магло быць нічога горшага за гэтую пакуту! Трэба пакласьці канец гэтым нясьцерпным кпінам! Я ня мог больш трываць іхных крывадушных усьмешак! Я адчуваў, што мушу або закрычаць, або памерці! Во цяпер зноўку!... Гучней! Гучней! Гучней! Гучней!..

- Паскуднікі! - залямантаваў я. - Годзе ўдаваць! Я прызнаюся, адарвеце масьнічыны!.. Тут, вось тут! Гэта б'ецца ягонае агіднае сэрца!

Пераклад з ангельскай

Юрася Бушлякова

**Заснавальнік і выдавец — Задзіночаньне Беларускіх студэнтаў**

**Рэдакцыйная калегія: Ігар Тышкевіч, Андрэй Іваноў, Юрась Бушлякоў**

**Макет выраблены пры ўдзеле Літаратурна-мастацкае суполкі**